## МОВА

*Рыбак дняпроўскі —*
*сінявокі продак —*
*Як спадчыну,*
*пакінуў назаўжды*
*Лугоў квяцістых —*
*незабыўны водар,*
*Азёр гаючых —*
*чысціню вады.*
*І неба сінь*
*і лесу шматгалоссе,*
*І плёскат хваляў*
*пад тугім вяслом...*
*У адно жывое*
*гэта ўсё злілося —*
*І мовай*
*беларускай*
*прарасло.*

**Валерый Шыханцоў**


# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 11 (994) ГОД XX 16 САКАВІКА 1975 г. ЦАНА 60 гр.


### Пуцяводныя думкі

У свеце дзеяння воля ёсць сіла, а цвёрдая воля — перамога.

*Д. Блекі*

Навучаць злу ўсё роўна, што рабіць зло.

*Кабус*

Вонкавая чысціня і прыгажосць павінны быць адлюстраваннем унутранай чысціні і прыгажосці.

*В. Бялінскі*

# ДЛЯ ДАБРА БЕЛАСТОЧЧЫНЫ І ЯЕ ЖЫХАРОЎ

XV Ваяводская справаздачна-выбарная партыйная канферэнцыя, якая адбылася 6 сакавіка г.г., сцвердзіла, што дасягнутыя Беласточчынай у 1973-1974 гадах вышэйшыя, чым прадбачваліся планам, вынікі ў гаспадарцы і росце матэрыяльных і культурных умоў жыцця з'яўляюцца вынікам паслядоўнага ажыццяўлення рашэнняў VI з'езду і пастаноў І краёвай канферэнцыі ПАРП. Канцэнтруючы ўвагу на выкананні асноўных заданняў сённяшняга дня і накрэсліваючы кірункі развіцця ў будучыні, партыя стварыла добрую, творчую атмасферу працы, што прыносіць карысць грамадству і кожнаму чалавеку. І ў выніку гэтага за чатыры мінулыя гады былі выкананы або перавыкананы заданні, намечаныя на ўсю пяцігодку ў такіх галінах, як прамысловая вытворчасць, сельскагаспадарчая вытворчасць, скупка збожжа, убойнай жывёлы і малака, будаўнічамантажная вытворчасць; значна хутчэй, чым прадбачваў план, прыбывае нам новых кватэр, тавараў у крамах, месц у дзіцячых садах, лепш працуе грузавы транспарт.

Цяпер неабходна замацаваць свае дасягненні і мабілізаваць усё грамадства да яшчэ больш інтэнсіўнага ўдзелу ў славутым **беластоцкім** паскораным тэмпе развіцця. Асабліва ў такіх галінах, як вытворчасць на ўнутраны рынак і на экспарт, сельскагаспадарчая вытворчасць і ў першую чаргу ў гадоўлі, павышэнне якасці і пашырэнне паслуг для насельніцтва, будаўніцтве, перавозы пасажыраў і тавараў, забеспячэнне патрэб школьніцтва, службы здароўя, культуры, турызму, спорту і адпачынку.

**У сельскай гаспадарцы** ў 1975 г. і ў наступныя гады неабходна, між іншым, павялічыць колькасць кармоў, выменьваць менш прадукцыйныя пароды быдла на „Нізінную чорна-белую", выканаць праграму **„Мільён"** і перавыканаць план скупкі ўбойнай жывёлы і малака. Трэба высяваць больш мінеральных угнаенняў, рацыянальна гаспадарыць на кожным гектары і лепш выкарыстоўваць машыны. Патрэбна большая колькасць калектываў па сельскагаспадарчай вытворчасці і спецыялістычных гаспадарак. Іх трэба ў першую чаргу забяспечыць будаўнічымі матэрыяламі, маладняком пародзістай жывёлы і адпаведнымі паслугамі. Перайманне гаспадарак за пенсію павінна праходзіць спраўней, а пераняты землі трэба апрацаваць лепш, чым рабілі гэта папярэднія гаспадары. Неабходна павялічыць і пашырыць паслугі для ўсяе сельскай гаспадаркі.

Асноўнае заданне **прамысловасці** — замацаваць дагэтуляшнія тэмпы павелічэння вытворчасці і паслуг, а таксама паставіць значна болей звышпланавых тавараў на ўнутраны рынак і экспарт пры далейшым павышэнні іх якасці і пашырэнні асартыменту новых вырабаў. Зніжаць затраты на вытворчасць, больш ашчадна гаспадарыць сыравінай, матэрыяламі і людской працай. Шырэй уводзіць навукова-тэхнічны прагрэс і новыя віды тэхналогіі, мадэрнізаваць машынны парк і лепш апекавацца вынаходцамі і рацыяналізатарамі. У далейшым паляпшаць сацыяльна-бытавыя ўмовы рабочых.

Неабходна перавыканаць планаваныя заданні ў **будаўніцтве** і стварыць умовы да яго паскоранага развіцця ў наступнай пяцігодцы. Перш за ўсё сканцэнтраваць увагу на пабудове фабрыкі па перапрацоўцы на мясным камбінаце ў Элку, малочных заводаў у Сэйнах і Гайнаўцы, новых прадпрыемстваў у Беластоку („Ухвытаў", фабрык

**(Працяг на стар. 4)**



**"БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ-75"**

**Пераможцы сёлетняга фінальнага агляду ў катэгорыі сучаснай песні — калектыў з Гарадка: Альжбета Дылько, Раіса Дылько, Анна Захарчук, Вольга Мядзведзева, Ірына Паўлючук, Марыя Траскоўская, Юліта Цеханоўская і Ніна Цыванюк. З акардэонам мастацкі кіраўнік Сцяпан Копа.**

**Фота Я. Цялушэцкага.**

# ЛЁС БЕЛАВЕЖСКАЙ ПУШЧЫ

30 студзеня 1975 года Міністэрства лясніцтва і дрэваапрацоўчай прамысловасці прыняло пастанову аб **„Асноўных прынцыпах лясной гаспадаркі на тэрыторыі Белавежскай пушчы"**. Пастанова гэта абавязвае ад **1 сакавіка 1975 года.** Прыхільнікі непаўторнай прыгажосці Белавежскай пушчы змагаліся за гэта звыш 15 гадоў. Яны пажадалі яшчэ больш. Прапанавалі менавіта, каб гэты адзіны ў Еўропе старажытны лес, растучы на нізіннай раўніне, атрымаў спецыяльны статут. Пасля шматлікіх кансультацый з вучонымі і спецыялістамі 13 снежня мінулага года беластоцкі ваявода выступіў з прапановай аб прысваенні Белавежскай пушчы гэтага спецыяльнага статута. Снежаньская „трынаццатка", быццам знарок аказалася не зусім шчаслівай, бо ў міністэрстве пачалі выкручвацца, што пушча — гэта не ўстанова і не арганізацыя, дык нельга ёй прысвоіць статуту. Таму яшчэ раз сабраліся 10 студзеня г.г. у беластоцкага ваяводы вучоныя і адказныя работнікі, каб вырашыць лёс Белавежскай пушчы. І ўжо пасля гэтага міністр канчаткова пастанавіў, што пушча атрымае не „статут", а толькі „Асноўныя прынцыпы", у якіх гаворыцца, што:

„1. Асноўнай функцыяй лясоў, састаўляючых пушчу, з'яўляецца прадукцыя высакаякаснай драўніны, пры адначасовым захаванні надзвычай рэдкага асяроддзя натуральнай прыроды (...).

2. Прадукцыйныя функцыі пушчы маюць быць цесна супастаўлены з яе культурнай, дыдактычнай і турыстычнай функцыямі."



Бачым з гэтага, што асноўнай задачай Белавежскай пушчы ў далейшым астаецца пастаўка драўніны. Без пушчы, без яе паднебных соснаў, магутных елак і расахатых дубоў не магла б існаваць Гайнаўка. Яе прадпрыемствы кожны год паглынаюць каля 120 тыс. кубічных метраў лесу, ды іх апетыт з кожным годам павялічваецца. Да таго ж яшчэ іншыя дрэваапрацоўчыя камбінаты ваююць за смалістую белавежскую сасну, а таксама высока яна цэніцца на замежных рынках. А белавежскі дуб цэніцца яшчэ вышэй. Пушча зарабляе для нас цвёрдую валюту на пакупку тых сартоў драўніны, якія ў нас не водзяцца, як, для прыкладу, магонь, арэх і т.п.

Таму кожны год гучна разносілася па пушчы рэха ад працы дрывасекаў. Яно ў будучыні, на жаль, не замоўкне, аднак — згодна з загадам міністра — пад сякеру будуць трапляць **толькі тыя дубы, якія ўжо раслі не менш, чым 240**

**(Працяг на стар. 4)**

### ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У "Ніве"

 

## Сухі порт у Генюшах працуе на поўную пару

Ідзе інтэнсіўная пастаўка савецкага збожжа ў Польшчу. Станцыя ў Генюшах (Сакольскі павет) — адзіны сухі порт у нашым ваяводстве — у студзені гэтага года перагрузіла каля 100 тысяч тон савецкай пшаніцы. Перагрузка праводзіцца механічна. Спецыяльныя машыны перапампоўваюць за суткі больш 2,5 тыс. тон збожжа з савецкіх вагонаў у польскія. Збожжа развозіцца ў розныя гарады краіны маятнікавымі цягнікамі, якія складаюцца з 30 вагонаў. Маюць яны зялёны свет на ўсіх станцыях.

Як паінфармавалі нас начальнік станцыі Генюшы Ежы Ботвіч і кіраўнік перагрузачнага пункта Генрык Тамашыцкі, пастаўкі ідуць вельмі рэгулярна. Гэта дазваляе максімальна выкарыстаць перагрузачнае абсталяванне і чыгуначны транспарт.

Сярод шматлікага калектыву „докераў“ станцыі ў Генюшах асабліва вылучаюцца Уладзімір Сяргейчык, Вацлаў Садкоўскі, а таксама перагрузачныя групы **Антона Трохіма, Казіміра** Галаўні, Станіслава Быкоўскага, Юзэфа Кішука і іншыя.

Тэкст і фота **Р. Сянько**



*Савецкія вагоны са збожжам.*

(Працяг са стар. 1)

## Лёс Белавежскай пушчы

**год, і толькі тыя сосны і елкі, якія пражылі ў пушчы не менш, чым 140 год.** Бярозу, асіну, граб і іншыя дрэвы будуць рэзаць па-даўнейшаму. Адначасова пастаноўлена, што гадавая норма здабычы драўніны ў Белавежскай пушчы **зменшыцца на нейкіх 50 тыс. кубічных метраў,** а ў планаванні размераў яго рашаючы голас кожны год будуць мець вучоныя і спецыялісты.

На ўсёй тэрыторыі Белавежскай пушчы забаронена **праводзіць меліярацыю,** каб не парушыць існуючага там здаўна ўзроўню вады. Таму лясная адміністрацыя хоча адкупіць ад сялян сенажаці ў далінах ракі Нараўка і Гвозна, каб забяспечыцца ад неразважнай, а з пункту гледжання гаспадароў, неабходнай дзейнасці чалавека.

Затое Белавежская пушча надалей астаецца раем для паляўнічых, асабліва для тых, болей прывілеяваных, якія штогод прыязджаюць да нас з-за мяжы і плоцяць вялікія грошы, каб забраць на ўласнасць чэрап аленя або дзіка.

У гушчарах польскай часткі Белавежскай пушчы, як падае ў сваёй кніжцы Эдвард Венцка, знаходзіць сховішча нейкіх паўтары тысячы аленяў, 2 тысячы сарнаў, каля 500 дзікаў, 100-120 лісаў, 15-20 лосяў, і амаль 200 зуброў, што свабодна гуляюць па пушчанскіх нетрах.

Калі гутарка ідзе аб каралях Белавежскай пушчы, дык паводле „Асноўных прынцыпаў“, **зуброў мае быць на свабодзе не больш чым 230 штук.** За год-два Белавежская пушча будзе ўжо для іх зацесная. На замежных рынках зуброў купляюць не вельмі ахвотна, бо гэта пражорлівая і ненасытная жывёла, і яе ўтрыманне дорага каштуе. Таму трэба будзе рассяляць іх па другіх лясных раёнах краіны, а можа нават...

Затым Белавежская пушча астанецца адным з турыстычных атракцыёнаў нашай краіны. Ужо цяпер прыязджае сюды кожны год каля 150 тыс. турыстаў. Мне самому двойчы ў мінулым годзе даводзілася вазіць туды замежных гасцей. Аднак турызм і Белавежская пушча гэта асобная і складаная тэма, да якой прыдзецца вярнуцца іншым разам.

Сёння хацелася б закончыць гэты артыкул надзеяй на тое, што міністэрыяльны загад прадоўжыць жыццё Белавежскай пушчы ў сённяшнім яе выглядзе да наступных пакаленняў і стагоддзяў.

**Віктар Рудчык**

Пачатак на стар. 1

## Для дабра Беласточчыны і яе жыхароў

мэблі і ўпакоўкі, „Промер-Бявар“), Беластоцкага палітэхнічнага інстытута і іншых. Гарантаваць выкананне заданняў у жыллёвым будаўніцтве і павялічыць вытворчасць будаўнічых матэрыялаў з мясцовай сыравіны.

**Гандаль, транспарт і сувязь** павінны больш поўна забяспечыць патрэбы насельніцтва, а ў перавозе пасажыраў тэрміновае і рэгулярнае курсаванне паяздоў і аўтобусаў, палепшыць умовы даезду да працы і ў школы. Узмоцніць нагляд за станам дарог і ініцыяваць грамадскую працу пры іх рамонце. Імкнуцца да таго, каб кожная гміна і большыя вёскі мелі кругласутачную тэлефонную сувязь.

Працягваць працу над сфармаваннем Беластоцкай навуковай групоўкі, а выкарыстоўваючы навуковыя кадры Беласточчыны да даследавання тэм, звязаных з нашым ваяводствам, рыхтаваць свае новыя кадры і заахвочваць вучоных з іншых асяроддзяў да працы ў беластоцкіх вышэйшых школах і навуковых установах. Асаблівай увагі і апекі вымагае пашырэнне і будаўніцтва гмінных зборных школ і забеспячэнне іх навуковымі дапаможнікамі. Неабходна павялічваць колькасць пунктаў аховы здароўя, аптэк, лекараў і медсясцёр у гмінах і вёсках, а таксама палепшыць апеку над дзяцьмі, асабліва ў лячэнні зубоў. Імкнуцца да пашырэння ўсіх відаў спорту.

Мацней процідзейнічаць марнатраўству і нягаспадарнасці, паўсюдна асуджаць п'янства, крымінальныя злачынствы, хуліганства і грамадскі паразітызм. Гэтыя надта шкодныя з'явы не могуць перашкаджаць высокаму рытму працы ў ажыццяўленні велічных грамадскіх заданняў.

Умацоўваць пярвічныя партыйныя арганізацыі, павышаць ідэйны ўзровень членаў партыі і іх уменне ўздзейнічаць на асяроддзе. Няспынна клапаціцца пра ўмацаванне рабоча-сялянскага ядра партыі, асабліва на вялікіх прамысловых прадпрыемствах, у вёсцы, у кааператывах працы. Удасканальваючы партыйную работу сярод моладзі, неабходна асаблівую ўвагу звярнуць на лепшыя вынікі ў справе яе ідэйнага выхавання і грамадскай пастаўы.

*(З праграмы дзейнасці Беластоцкай ваяводскай партыйнай арганізацыі на 1975-1976 гады).*

## Аб нас у Чэхаславакіі

У сёлетнім другім нумары месячніка „Zwrot“, які выдае Галоўнае праўленне Польскага культурна-асветнага саюза Чэхаславакіі апублікаваны абшырны артыкул Янкі Зенюка „Беларускае грамадска-культурнае таварыства ў Польшчы“. У ім аўтар піша аб прагрэсіўных польска-беларускіх традыцыях, аб актыўным удзеле беларусаў у сацыялістычным будаўніцтве ў ПНР, аб заданнях і дзейнасці БГКТ і „Нівы“. Артыкул змястоўны, насычаны фактамі і, несумненна, чытачы „Zwrotu“ многа з яго даведаюцца пра нас. Разам з артыкулам Янкі Зенюка друкуецца і здымак гарадоцкага калектыву. Прыемна!

НА СПАРТЫЎНАЙ НІВЕ

## Маладая лёгкаатлетка

Адной з выдатных спартсменак у Беларускім ліцэі ў Бельску з'яўляецца Валя Якубовіч, вучаніца класа II „А“. Яна дабілася першых поспехаў на спартыўнай ніве ўжо ў сёмым класе пачатковай школы ў Вульцы Выганоўскай.

Калі Валя Якубовіч прыйшла вучыцца ў бельскі ліцэй, яна адразу заваявала першынство сярод ліцэістак у бегу на 100 і 200 метраў, а таксама ў скачках. Так стала лепшай лёгкаатлеткай.

У мінулым годзе ў ліпені Валя Якубовіч удзельнічала на цэнтральнай маладзёжнай спартакіядзе, якая адбылася на стадыёне „Варшавянка“ ў Варшаве. Мела яна добрыя вынікі ў бегу на кароткіх дыстанцыях і ў скачках у даль. Такім чынам здабыла міжнародную спартыўную адзнаку.

Выступае яна таксама ў школьнай камандзе сяткоўкі супольна з вядомымі бельскімі спартсменамі Галінай Аляксеевай, Ірэнай Кірылюк, Галінай Талочка і Галінай Бручка. Іх каманда займае лепшыя месцы на ўсіх спартакіядах моладзі сярэдніх школ. Трэніроўкі ў рамках СКС вядзе з ліцэісткамі настаўніца фізкультуры Марыя Красоўская. У кожную пятніцу дзявочая каманда, а ў яе ліку і Валя Якубовіч збіраюцца ў фізкультурнай зале. Яна іграе ў сяткоўку, а таксама ў ручны мяч.

Тэкст і фота **Я. Цялушэцкага**



Беларуская ЛІТАРАТУРА — АЛЯКСАНДР БАРШЧЭЎСКІ

## Нашаніўская пара

**МАКСІМ БАГДАНОВІЧ — ЧАСТКА XLII**

**Лісты.** Сёння разглянем апошнюю катэгорыю творчасці Багдановіча — яго лісты. Захаваныя лісты пісьменніка амаль поўнасцю звязаны з літаратурнымі праблемамі. У зборы твораў, т. II, Мінск 1968 г. апублікавана 12 лістаў Багдановіча, накіраваных пісьменнікам у рэдакцыю альманаха „Маладая Беларусь“, які рэдагаваўся ў Пецярбурзе, у рэдакцыю „Нашай нівы“ і лісты, высланыя Багдановічам вядомаму беларускаму вучонаму, крытыку і дзеячу Вацлаву Ластоўскаму.

Значнае месца ў лістах адведзена справам, звязаным з падрыхтоўкай да друку яго зборніка „Вянок“ і вершаў у „Маладой Беларусі“ або ў „Нашай ніве“. У такіх выпадках Багдановіч не рэдка гаварыў аб тэхнічных справах, якія не маюць істотнага гісторыка-літаратурнага значэння. І таму разгледзім тут толькі тыя фрагменты лістоў, якія адносяцца або да праграмных канцэпцый пісьменніка, або да агульналітаратурных спраў, або да творчасці іншых беларускіх пісьменнікаў.

І так, у лісце з лістапада 1911 года, высланым у рэдакцыю „Маладой Беларусі“, Багдановіч многа піша аб форме санета. Пісьменнік лічыць, што не толькі ў беларускай, але і ў рускай літаратуры няма санетаў, якія поўнасцю адпавядалі б вымогам норм гэтага паэтычнага гатунку. Паводле Багдановіча, якраз яго санеты застаюцца ў поўнай згодзе з тэарэтычнымі нормамі. І таму паэт просіць апублікаваць іх разам з яго тэарэтычным артыкулам, прысвечаным санету.

У заканчэнні ліста ёсць прыпіска, якая сведчыць аб крытычных адносінах Багдановіча да сваёй мовы: „...калі ў вершах знойдзецца колькі абмылак у мове, так што зробіцца патрэбнай сур'ёзная падпраўка, — будзь ласка, надашліце іх, калі хапіла бы часу, да мяне: я ахвотна папрацаваў бы“.

У лісце, высланым у жніўні 1912 г. у рэдакцыю „Нашай нівы“, Багдановіч стараецца высніць характар свайго сцвярджэння аб тым, што некаторыя творы Купалы маюць рамантычны характар. Сапраўды, тэзіс аб рамантызме ў паэзіі Купалы паявіўся ў некаторых артыкулах Багдановіча, прысвечаных агляду беларускай літаратуры. Мабыць, Купала або нехта іншы з круга „Нашай нівы“ меў за гэта прэтэнзіі да Багдановіча. І таму, бадай, Багдановіч у лісце высняе істоту свайго сцвярджэння аб рамантызме Купалы. Піша ён, што не бачыць у такой схільнасці Купалы нічога дрэннага: „Наша пісьменнасць яшчэ толькі зараджаецца, рамантызм для яе — не пройдзеная ступень, як у іншых літаратурах, а рэч зусім свежая. У нас кожны кірунак можа мець цэннасць“. Сцвярджэнне, несумненна, слушнае. Трэба, аднак, сказаць, што, мабыць, Багдановіч усё ж такі меў адмоўныя адносіны да рамантычных тэндэнцый у творчасці Купалы. У іншым выпадку не напісаў бы вядомай эпіграмы, у якой высмейваў рамантызм Купалы і сентыменталізм Паўловіча.

З іншых лістаў, накіраваных у „Нашу ніву“, відаць, што Багдановіч, нягледзячы на цяжкі стан здароўя, быў у курсе ўсіх нашаніўскіх і вогуле ўсіх беларускіх спраў. У лістах не мала фактаў, дэталяў, якія сведчаць аб тым, што хворы паэт часцей трымаў руку на пульсе беларускага адраджэння, чым на пульсе свайго здароўя.

Значную цікавасць прадстаўляе для нас ліст з мая 1914 года, які накіраваў Багдановіч Вацлаву Ластоўскаму. Ліст гэты з'яўляецца вымоўным пасведчаннем зацікаўлення Багдановіча Польшчай. Вось яго фрагмент: „Скончыўшы вясеннія экзамены, адразу хачу прыступіць да свайго даўняга жадання, а ўласна хачу вывучаць польскую мову. Дзеля таго падашліце мне накладной платай на Дзямідаўскі ліцэй вось якія кнігі: 1) Слоўнік польска-рускі, не надта вялікі, па Вашаму выбару. Па Весялоўскаму я хачу вучыцца. Маю надзею, што за лета здолею такі яго прачытаць, калі ёсць польская граматыка на расійскай мове, таксама не за надта вялікая, дык падышліце і яе“.

Драматычны перадсмяротны ліст Багдановіча, высланы бацьку з Ялты ў маі 1917 года. Паэт характарызуе стан свайго здароўя, гаворыць аб грозных туберкулёзных сімптомах. Па сутнасці ліст гэты быў формай развітання Багдановіча не толькі з бацькам, але і з жыццём.



 

